

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 27 (566) 17 ЛІПЕНЯ 2002 г.

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на трэці квартал 2002 года. У гэтым (летнім) квартале мы чакалі падзення падпіскі з-за канікулаў у студэнтаў і школьнікаў. Так у асноўным і адбылося. Найбольшае падзенне ў галоўным чынам прайшло па гарадах з вышэйшымі і сярэднімі спецыяльнымі навучальнымі ўстановамі, за выключэннем хіба Баранавіч, Ліды, Воршы, Горкаў, дзе падпіска нават вырасла ды Маладэчна, дзе засталася на месцы. Даволі стабільная сітуацыя ў Горадні і Гомелі - гэта перш за ўсё вынік працы арганізацый ТБМ.

| Берасцейская вобласць: | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| Баранавічы р.в | 29 | 42 |
| Бяроза р.в. | 7 | 9 |
| Белаазёрск р.в | 3 | 1 |
| Бярэсце гор. | 46 | 18 |
| Ганцавічы р.в. | 3 | 1 |
| Драгічын р.в. | 2 | 1 |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в. | 2 | 1 |
| Івацэвічы р.в | 5 | 4 |
| Камянец р.в. | 21 | 2 |
| Кобрын гор. | 15 | 5 |
| Лунінец гор. | 4 | 4 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | 1 |
| Пінск гор. | 22 | 37 |
| Пружаны р.в. | 5 | 6 |
| Столін р.в. | 3 | 3 |
| **Усяго:** | **169** | **136** |

| Віцебская вобласць: | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| Бешанковічы р.в. | 2 | 2 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 44 | 29 |
| Віцебск РВПС | 3 | 4 |
| Верхнедзвінск р.в. | 6 | 6 |
| Глыбокае р.в. | 6 | 3 |
| Гарадок р.в. | 7 | 3 |
| Докшыцы р.в. | 6 | 4 |
| Дуброўня р.в. | 2 | 1 |
| Ліёзна р.в. | 3 | 1 |
| Лепель р.в. | 2 | 2 |
| Міёры р.в. | 11 | 6 |
| Наваполацк гор. | 41 | 32 |
| Ворша гор. | 7 | 20 |
| Полацк гор. | 50 | 42 |
| Паставы р.в. | 5 | 5 |
| Расоны р.в. | 2 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | 2 |
| Талочын р.в. | 3 | 3 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 2 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 14 | 5 |
| Шуміліна р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **223** | **178** |

| Менская вобласць: | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| Беразіно р.в. | 4 | 5 |
| Барысаў гор. | 7 | 4 |
| Вілейка гор. | 7 | 5 |
| Валожын гор. | 9 | 7 |
| Дзяржынск р.в. | 1 | 3 |
| Жодзіна гор. | 6 | 9 |
| Клецк р.в. | 6 | 1 |
| Крупкі р.в. | 1 | 1 |
| Капыль р.в. | 2 | - |
| Лагойск р.в. | 4 | 4 |
| Любань р.в. | 5 | 7 |
| Менск гор. | 464 | 405 |
| Менск РВПС | 17 | 16 |
| Маладэчна гор. | 23 | 23 |
| Мядзель р.в. | 7 | 7 |
| Пухавічы РВПС | 15 | 9 |
| Нясвіж р.в. | 5 | 3 |
| Смалявічы р.в. | - | - |
| Слуцк гор. | 10 | 9 |
| Салігорск гор. | 5 | 3 |
| Ст. Дарогі р.в. | 1 | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 12 | 14 |
| Узда р.в. | 2 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 1 | 8 |
| **Усяго:** | **624** | **545** |

| Гомельская вобласць: | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| Буда-Кашалёва | 12 | 4 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 88 | 61 |
| Гомель РВПС | 2 | 4 |
| Добруш р.в. | 5 | 2 |
| Ельск р.в. | 3 | 3 |
| Жыткавічы р.в. | 36 | 26 |
| Жлобін гор. | 5 | 7 |
| Калінкавічы гор. | 8 | 2 |
| Карма р.в. | 2 | 1 |
| Лельчыцы р.в. | 3 | 2 |
| Лоеў р.в. | 1 | 1 |
| Мазыр гор. | 37 | 10 |
| Акцябарскі р.в. | - | - |
| Нароўля р.в. | - | - |
| Петрыкаў р.в. | 2 | 2 |
| Рэчыца гор. | 5 | 6 |
| Рагачоў гор. | 2 | 1 |
| Светлагорск гор. | 8 | 8 |
| Хойнікі р.в. | 2 | 4 |
| Чачэрск р.в. | 3 | 1 |
| **Усяго:** | **226** | **143** |

| Гарадзенская вобласць: | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| Бераставіца | 4 | - |
| Ваўкавыск гор. | 12 | 12 |
| Воранава р.в. | 6 | 4 |
| Горадня гор. | 93 | 87 |
| Горадня РВПС | 46 | 42 |
| Дзятлава р.в. | 15 | 7 |
| Зэльва р.в. | 2 | 3 |
| Іўе р.в. | 1 | 2 |
| Карэлічы р.в. | 8 | 8 |
| Масты р.в. | 9 | 12 |
| Наваградак гор. | 12 | 10 |
| Астравец р.в. | 2 | 3 |
| Ашмяны р.в. | 5 | 5 |
| Смаргонь гор. | 12 | 11 |
| Слонім гор. | 13 | 10 |
| Свіслач р.в. | 5 | 4 |
| Шчучын р.в.ю | 6 | 5 |
| Ліда | 20 | 29 |
| **Усяго:** | **271** | **254** |

| Магілёўская вобласць: | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| Бабруйск гор. | 5 | 5 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в | 2 | 1 |
| Быхаў р.в. | 2 | 1 |
| Глуск р.в. | - | - |
| Горкі гор. | 19 | 25 |
| Дрыбін р.в | - | - |
| Кіраўск р.в. | 1 | - |
| Клічаў р.в. | 1 | - |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Клімавічы р.в. | 3 | 3 |
| Касцюковічы р.в. | - | 2 |
| Круглае р.в. | 4 | 3 |
| Мсціслаў р.в. | 3 | 1 |
| Магілёў гор. | 28 | 18 |
| Магілёў РВПС | 1 | - |
| Асіповічы гор. | 12 | 7 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | 2 | 2 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 12 | 3 |
| **Усяго:** | **96** | **72** |
| **Усяго па краіне:** | **1609** | **1328** |

## *Віншаванне ад ТБМ*

### *Вядомаму беларускаму навукоўцу Георгію Штыхаву – 75!*



***Паважаны Георгі Васільевіч!***

*ТБМ імя Ф.Скарыны віншуе Вас з юбілеем, жадае бадзёрасці, моцнага здароўя, творчага натхнення і ўсяго самага найлепшага ў Вашым жыцці.*

*Мы ведаем Вас як вядомага еўрапейскага вучонага, аднаго з выбітных дзеячоў сучаснай беларускай археалогіі, прафесара, доктара гістарычных навук, аўтара шматлікіх манаграфій і навукова-папулярных кніг. Вашае даследванне крывічоў і Полацкай зямлі з'яўляецца грунтоўным падмуркам сённяшняй гістарычнай навукі.*

***Сакратарыят ТБМ.***

## УВАГА! УВАГА!

**Старшыні ТБМ ім. Ф. Скарыны**
**Сп. Трусаву А. А.**

**14 ліпеня 2002 года ў Радашковічах згарэла хата Веры Андрэеўны Ніжанкоўскай-Тарашкевіч. Просім Вашай дапамогі ў прыцягненні экспертаў, рэстаўратараў, навуковых супрацоўнікаў і сяброў ТБМ для выратавання застаўшыхся каштоўнасцяў і адбудавання гэтага гістарычнага будынка.**

**Нам. старшыні Радашковіцкай**
**суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны М. М. Ліннік.**
**17.07.2002г.**

**Старшыні выканкама Радашковіцкага пассавета**
**С. І. Уласаву**

**Радашковіцкая суполка ТБМ ім Ф. Скарыны просіць Вас аказаць дапамогу сябру ТБМ Ірыне Уладзіславаўне Ніжанкоўскай у захаванні гістарычных каштоўнасцяў, пацярпелых у час пажару 14 ліпеня 2002 года. Просім Вас прыкласці ўсе намаганні для адбудавання новай хаты на месцы пажара.**

**Нам. Старшыні Радашковіцкай**
**суполкі ТБМ ім. Ф. Скарыны М. М. Ліннік.**
**17.07.2002.г.**

## БІБЛІЯ ПА-БЕЛАРУСКУ!

Выйшлі з друку першыя асобнікі Бібліі ў беларускім перакладзе Васіля Сёмухі. Васіль Сёмуха вядомы па перакладах Гётэ, Канапніцкай, Грымельсгаўзэна, Мана, Гесэ, Вальтэра фон дэр Фогельвайдэ і іншых. Наклад Бібліі 10000 паасобнікаў. Выданне ўнікальнае, бо гэта першы выпадак, калі пад адной вокладкай была сабрана ўся Біблія пабеларуску.

Васіль Сёмуха шчыра дзякуе Але Орса-Рамана (ОР Культурна-Адукацыйны Фонд, ЗША); Юрку Рапецкаму (Global Missionary Ministries, Kanada); Веры і Анатолю Пранцэвічам (ЗША); Лідзіі і Віктару Фраловым (Беларусь); Алегу Іванову (Беларусь); Сяргею Матусевічу (Беларусь), а таксама ўсім ахвярадаўцам з беларускіх дыяспар у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Еўропе, пры дапамозе якіх была выдадзена кніга. Пры перакладзе Васіль Сёмуха карыстаўся новакласічным правапісам. Увосень плануецца правесці Беларускае свята Бібліі, на якое запрашаюцца ўсе ахвотныя.

*Глеб Лабадзенка.*

# Рыцары Беларусі



29-30 чэрвеня ў Навагрудку прайшло свята культуры сярэднявечча "Навагрудскі палац", у якім прынялі ўдзел шматлікія рыцарскія клубы Беларусі.
**На здымку:** фрагмент свята.
**Фота Віктара Талочкі, БелТА.**

**ГА "Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**

### Аб разглядзе рэзалюцыі

У Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь разгледжаны ваш ліст ад 22.05.2002 г. № 280 і зварот удзельнікаў "круглага стала" на тэму: "Беларуская мова. Інтэрнэт і камп'ютар". Па сутнасці ўзнятых пытанняў паведамляем наступнае.

Арганізацыя прапанаванага ў п.3 рэзалюцыі цэнтра па архівацыі электронных тэкстаў на беларускай мове, якія ствараюцца ў дзяржаўных выдавецтвах, у сённяшніх умовах не ўяўляецца магчымым па наступных прычынах:

1. Уладальнікамі электронных тэкстаў з'яўляюцца выдавецтвы, і на сёння не існуе механізма абавязковай перадачы названых дакументаў у т. з. цэнтр па захаванні электронных тэкстаў на беларускай мове;

2. Для стварэння такога цэнтра неабходны дадатковыя фінансавыя сродкі, якіх міністэрства не мае.

Адносна п.6 паведамляем, што выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі" падрыхтавала электронную версію выдання "Гісторыя Беларусі" (энцыклапедычны даведнік), а таксама рыхтуе прапановы па стварэнні электроннай версіі "Энцыклапедыі Беларусі". Аднак для ажыццяўлення гэтага праекта таксама неабходны дадатковыя фінансавыя сродкі. У сённяшніх складаных эканамічных умовах прафінансаваць гэты праект міністэрства не мае магчымасці.

Адносна п.8 паведамляем, што Міністэрства інфармацыі ўжо мае сваю інфармацыйную старонку ў Інтэрнэце (www.main.gov.by), на якой размешчаны матэрыялы аб дзейнасці міністэрства на рускай і беларускай мовах.

**Намеснік Міністра Л. С. Ананіч.**





# Візіт Генральнага дырэктара ЮНЕСКА ў Беларусь







*Кожны турыст, які наведае Мірскі замак, будзе ведаць, што замак належыць да сусветнай культурнай спадчыны. Тут 9 ліпеня адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця мемарыяльнай дошкі, якая сведчыць пра ўключэнне гэтага помніка ў прэстыжны спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Удзел у цырымоніі прыняў Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каіціра Мацуура, віца-прэм'ер Беларусі Уладзімір Дражын, міністр культуры Леанід Гуляка, старшыня Гарадзенскага аблвыканкаму Уладзімір Саўчанка.*

*Рашэнне пра ўключэнне Мірскага замка ў спіс сусветнай культурнай спадчыны было прынята ў лістападзе 2000 года на сесіі Камітэту ЮНЕСКА па сусведнай культурнай і прыроднай спадчыне. На сёння ў гэтым дакуменце значыцца 730 аб'ектаў у 125 краінах. Каіціра Мацуура ўручыў таксама пасведчанне пра ўключэнне Мірскага замка ў спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.*

***На здымках:***

*1. Падчас цырымоніі адкрыцця мемарыяльнай дошкі.*
*2. Мірскі замак.*
*3. Падчас агляду Мірскага замка.*

***Фота Мікалая Пятрова, БелТА.***

**Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь**
**А. Р. Лукашэнку**

**Паважаны Аляксандр Рыгоравіч!**

Прыезд у Беларусь Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Каіціры Мацууры для ўручэння дыплома Мірскаму замку, а таксама ягоны ўдзел у міжнародным сімпозіюме "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі", што праводзіцца па ініцыятыве Саюза беларускіх пісьменнікаў, з'явіцца значнай падзеяй у культурным і палітычным жыцці нашай краіны. Дэкларацыя ЮНЕСКА аб культурнай разнастайнасці прызвана супрацьстаяць негатыўным працэсам глабалізацыі і нівеліроўкі культур і моў свету. Яна надзвычай актуальная для Беларусі, дзе мова тытульнай нацыі знаходзіцца на становішчы падчаркі.

За час падрыхтоўкі да сімпозіюму намі былі праведзены шматлікія "круглыя сталы", дзе грамадскасць выказвала сваю занепакоенасць становішчам беларускаай мовы. Развеяны міф аб нежананні беларускай моладзі вучыцца на роднай мове. Асабліва прадстаўнічым быў круглы стол "Мова, адукацыя і час", праведзены супольна з Міністэрствам адукацыі, дзе пісьменнікамі і вучонымі, у тым ліку акадэмікамі і член-карэспандэнтамі НАН Беларусі, а таксама выкладчыкамі школ і ВНУ горача падтрымана ідэя адкрыцця ў Менску нацыянальнага (беларускамоўнага) універсітэта. Бо ці нармальная сітуацыя, калі 34% выпускнікоў СШ набылі сёлета сярэднюю беларускамоўную адукацыю, але не маюць магчымасці працягнуць навучанне ў ВНУ на роднай мове? Тым часам без вышэйшай адукацыі на мове карэннага насельніцтва незалежная дзяржава не можа існаваць.

Мы пераканаліся, што арт. 32 Закона аб адукацыі Рэспублікі Беларусь, згодна з якім ВНУ павінны адчыняць з 1 верасня г.г. беларускамоўныя плыні, ігнаруецца.

Зараз з'яўляецца магчымасць на справе паказаць міжнароднай супольнасці дзяржаўны клопат аб адной з найпрыгажэйшых славянскіх моў, а менавіта мове нашага народу, і на ўручэнні высокім госцем дыплома сусветнай спадчыны Мірскаму замку альбо на Міжнародным сімпозіюме абнародваць дэкрэт аб адкрыцці ў Беларусі нацыянальнага беларускамоўнага ўніверсітэта, канцэпцыя якога даўно падрыхтавана Таварыствам беларускай мовы. Дзеля гэтага ёсць шмат магчымасцяў і не патрэбна вялікіх сродкаў.

Стварэнне такога ўніверсітэта будзе цалкам адпавядаць арт. 50 дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Выкладчыкі і студэнты тут будуць дабраахвотна працаваць на беларускай мове.

Спадзяёмся на ўзаемаразуменне і жаданне разам з міжнароднай супольнасцю вырашаць праблемы, якія сёння стаяць перад усім чалавецтвам.

З павагай

**Вольга Іпатава,**
**Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў**
25.06.2002

**Алег Трусаў,**
**Старшыня ГА ТБМ імя Ф. Скарыны**

# Адышоў у лепшы свет фоталетапісец БНФ і ўсёй Беларусі



Нечакана, неспадзявана для ўсіх, хто яго ведаў. На 69-м годзе абарвалася жыццёвая сцяжынка фотакарэспандэнта **Уладзіміра Карміркіна.**

Уладзімір Кармілкін вядомы ў дэмакратычным журналісцкім асяродку як самаахвярны, адданы ідэалам Бацькаўшчыны майстар. Свята паверыўшы ў незалежную Беларусь, ён пранёс праз сваё жыццё адданасць нацыянальным гістарычным сімвалам – бел-чырвона-беламу сцягу і гербу "Пагоня".

Уладзімір Кармілкін назаўсёды застанецца ў гісторыі адраджэнцкага руху як стваральнік фоталетапісу Беларускага народнага фронту "Адраджэньне" ад пачатку яго заснавання.

Таварыства беларускай мовы смуткуе з прычыны смерці Уладзіміра Кармілкіна і выказвае шчырае спачуванне ягоным родным, сваякам і сябрам.

**Сакратарыят ТБМ.**

# Юбілею прысвячаецца

Ужо трэці год запар над небам Азярыцкай Слабады, што каля вядомага Кургана Славы, збіраюцца на свой традыцыйны плянэр разьбяры па дрэве. Тут іх чакаюць адмыслова нарыхтаваныя дубовыя і асінавыя кругляк, у якія народныя майстры, пакліканыя сюды сэрцам з усёй Беларусі, удыхнуць жыццё, аддадуць ім часцінку свайго таленту і цеплыні. Цягам дзесяці дзён, ад 3 да 13 ліпеня, з ранку да вечара у ваколіцах можна было пачуць, як стукаюць сякеркі ў спрытных руках творцаў, пабачыць, як пачынае ажываць, набываць канкрэтны вобраз звычайнае бервяно.

Сёлетні плянэр – адметны. Ён прысвячаецца 120-м угодкам ад дня народзінаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, што ў значнай ступені абумовіла тэматыку твораў. Усе яны прасякнуты пашанай да народных паэтаў. Любоўю да сваёй Бацькаўшчыны і роднага беларускага слова. Так Алег Пракарына з Нясвіжчыны стварыў складаную кампазіцыю, у якой, акрамя іншага, выразаў свой верш, што пачынаецца так: "Я шукаю словы беларускай мовы..." Натхнёныя паэзіяй народных песняроў, дасведчаныя майстры – Сяргей Кляшчук, Уладзімір Гулякевіч, Анатоль Лавар, Іван Супрунчык, Валер Казлоўскі – стварылі вобразы гусляра, музыкі, мужыка, Яся і Яніны. Вячаслаў Пятровіч, якому належыць ідэя плянэру, і на плячах якога багата гаспадарчых і арганізацыйных клопатаў, увасобіў у дрэве вобраз Несцеркі. "Сейбіт" Васіля Сілкова з Гомеля кідае ў глебу зярняткі беларускасці з надзеяй, што сёлетнім юбілейным годам яны дадуць добрыя ўсходы. І як адметнасць нашай Радзімы ў кампазіцыю ён арганічна ўплятае валожкі і бусла. Ваенную тэму ў вобразе старога партызана ўвасобіў у дрэве спрактыкаваны майстра Уладзімір Еленскі. Ён назваў сваю скульптуру "Апошні салют". А ягоны вучань Аляксей Крысёнак самы малады разьбяр, што першы раз браў удзел у падобным плянэры, абраў тэму "Мой родны кут". Рамантычны вобраз Купалінкі стварыў Анатольл Пушкароў з Глыбоччыны. Не мог не стварыць, бо зусім нядаўна ён знайшоў сваю Купалінку. Пабраўся з любімай дзяўчынай. Усе скульптурныя кампазіцыі ўсталяваныя ў парку каля Кургана Славы, каб сваім хараством і незвычайнасцю радаваць вока наведвальнікаў.

Хутка праляцелі 10 плянэрных дзён. Для яго ўдзельнікаў гэта быў час прыемных узаемінаў, творчага росту, культурнага і пазнавальнага адпачынку ды самых звычайных жыццёвых захапленняў. Як, напрыклад, - вясковая лазня. Такое будзе помніцца ўсё жыццё.

*Ірына Ляксеева.*

# Карона беларускай музычнай імперыі: хто на чарзе?

Пасля крытыкі, якая абрынулася на арганізатараў галоўнай выніковай імпрэзы беларускіх рок-музыкаў—«Рок-каранацыі» ў мінулым годзе са старонак рускамоўнай «дэмакратычнай» прэсы, здавалася, што гэтая нацыянальнага маштабу падзея ўжо не акрыяе, пад уплывам «добразычліўцаў» ператворыцца ў нешта сапраўды аморфна-дэнацыяналізаване, з пераважным прыцэлам на расейскі шоў-бізнес.

Але да гонару арганізатараў «Рок-каранацыі» з выдавецкай фірмы «Каўчэг», яны не пайшлі за «прогресситами», не саступілі жорсткаму прэсінгу мясцовым пастаўшчыкам «пушачнага мяса» на расейскі поп-рынак. Пры гэтым, нягледзячы на агульную эканамічную ды дзяржаўна-культурную апатыю, правялі свой «Belarus Music Awards» дастатакова перапанаўча ды з немалой доляй вынаходніцтва: пачынаючы ад увасаблення сцэнічнай лякарні, з вынясеннем дыягназу («хворы на рок-н-рол»), назначэння лекаў—новых гатункаў піва «Аліварыя» ды завяршаючы складам гасцей, запрошаных на сёлятную «Рок-каранцыю»...

Апошнюю катэгорыю гэтай «Рок-каранацыі» прадстаўляў мінулагодні трыумфатар—гурт «NRM» з песнямі са свайго новага, звышмагутнага альбома. Шчыра кажучы, цяжка гаварыць пра ўсю гэтую навінку ўцэлым, але ўжо сёння мы чакаем сенсацыйнай працы, якая стане не меньш захапляльнай, чым альбом "Тры чарапахі", захавае рысы мінулай працы, насыціцца новай эмацыянальнай заглыбленасцю, кампазіцыйнай сталасцю і завершанасцю.

Неўрымслівы ха́рактар не дае даўгажыхару "NRM" Лявону Вольскаму зацыкліваццa на нейкай магістральнай лініі ў сваёй творчасці. Яго універсальнай натуры хапае на шматлікія паралельныя, ў тым ліку на арыгінальныя праекты, такія як застольны альбом "Крамбамбуля"—музычна-пластычнае шоў, прысвечанае алкагольным напоям розных краінаў ды культуры іх ўжывання. Што ж натхніла Лявона Вольскага на рэалізацыю "Крамбамбулі"? Чытачы пра гэта могуць даведецца, калі зноў перагартаюць кнігу Э. Зайкоўскага і Г. Тычкі "Старадаўняя беларуская кухня" і спыняцца на староцы 257 з рэцэптам культавай "крамбамбулі". На выніковым канцэрце слухачы мелі магчымасць пазнаёміцца з лаціна-рытмічнай кампазіцыяй "Тэкіла". Нажаль, часу было недастаткова, каб "пакаштаваць" яшчэ нешта з музычна-спірытусавых кактэйляў "Крамбамбулі"...

Выдаўцы з фірмы "Каўчэг", акрамя іншага, вырашылі зрабіць свой унёсак у прапаганду старадаўняй беларускай музычнай культуры—выдалі два альбомы гомельскай медыявільнай групы "Стары Ольса" ды дaручылі ёй распачаць музычны сэт "Рок-каранацыі". Трэба адзначыць, што старажытная беларуская дуда, колавая ліра, арганічна ўпісаліся ў кантэкст беларускага рок-канцэрта, як і ў гучанне многіх беларускіх рок-гуртоў ("Aquamorta", "Vicios Crusade"). Вось вам і сувязь традыцыі і сучаснасці, якая, на думку скептыкаў, ні на што больш не вартая, як на стварэнне толькі віртуальнай рэальнасці !

Яшчэ адным з вартых увагі праектаў стаў рэп-кор-гурт "Pomidoroff" пад кіраўніцтвам Алеся Крывашэева-Памідорава. На "Рок-каранацыі'2001" гурт прапанаваў знаёмую па дыску "Сэрца Эўропы in rock" "Вітальную" кампазіцыю. Сапраўды, такой звышсучаснай музыкі, новамодных аранжыровак драматычна не хапае беларускім рок-і поп-выканаўцам. Хочацца адзначыць, што Алесю ў ажыццяўленні яго праекта вельмі прафесійна дапамагаюць музыкі гурта "Уліс"—Слава Корань ды Алесь "Ганс" Быкаў. Будзем чакаць іх сумеснага дэбюту ў грамзапісу, каб маладыя не сумняваліся ў тым, што "ветэраны" нешта кумекаюць ў рэп-музыцы і хард-кору !

Былі на "Рок-каранацыі" і музычныя сюрпрызы. Адным з такіх стаўся выступ знанага фолк-мадэрнавага гурта "Палац" упершыню з "жывымі" бубнамі і бас-гітарай. Трэба адзначыць, што да гэтага музыкі гурта ішлі не меньш за 10 год і эксперымент атрымаўся ўдалым. "Палац" загучаў амаль сімфанічна-насычаным гукам, што не магло не выклікаць захаплення слухацкай аўдыторыі. Але першую Рок-карону ў гэтым годзе атрымаў менавіта "Палац" за лепшы відэа-кліп года. на песню "На турэцкіх палях". Кажуць, што гэтая праца была адзінай на беларускім музычным экране і таму атрымала прыз у гэтай намінацыі. Тым не меньш, відэа-кліп "Палаца"—аб'ектыўна файны твор у гэтым рэчышчы і варты самай высокай адзнакі.




**На фота: удзельнікі рок-гурта "Уліс" з высокага гарышча назіраюць за інтрыгай "Рок-каранацыі-2001"**

Нельга не ўспомніць пра яшчэ адзін сюрпрыз сёлетняй "Каранацыі"—запрашэнне на яе вядомага ў акрэсленых колах поп-гурта "Леприконсы". Шчыра кажучы, заўсёды цікавіў гэты музычны "цырк на дроце". Але і такая музыка мае сваё права на існаванне ! Асабліва калі ўлічыць сённяшнюю накіраванасць музыкаў на квазі-сацыяльную тэматыку: "Девчонки полюбили не меня. Девчонки полюбили москаля, а у москаля через слово бля...". Ды вось толькі псавалі ўражанні неўклюдыя жарты, прыпраўленыя расейскім матам.

Адным з трыўмфатараў "Рок-каранацыі-2001" па праву стаў сольны праект Зміцера Вайцюшкевіча "Цацачная крама", створаны на вершы прафесіянала—паэта Л. Дранько-Майсюка. Менавіта спадар Леанід атрымаў Рок-карону за лепшыя рок-тэксты ў гэтым годзе. А далей усё атрымалася, "як з рога ўсяго многа"—"Цацачная крама" прызнаная лепшай крытыкамі і слухачамі ў намінацыі "Традыцыя і сучаснасць", а яе музычны натхняльнік, кампазітар і прадзюсер Зміцер Вайцюшкевіч быў адзначаны як лепшы музыка 2001 года !

А вось нецацачная "Крама", блюз-рокавы гурт, які не так даўно адзначыў сваё дзесяцігоддзе альбомам "Хавайся ў бульбу!" небеспадстаўна чакаў самай высокай адзнакі сваёй трохгадовай працы. І вось альбом "Хавайся ў бульбу!" пад агульныя воплескі слухачоў абвяшчаецца лепшым фанаграфічным выданнем мінулага сезону! Падарункам расчуленых "крамчукоў" сваім прыхільнікам стала выкананне галоўнай песні альбома, ды драматычна-экзістэнцыяльнай балады "Падае дождж". Крытыкі і слухачы ўжо пачынаюць прызвычайвацца да таго, што беларускамоўныя музычныя альбомы—найбольш уплываюць на светапогляд тых, каго сацыёлагі называюць прагрэсіўнай моладдзю, уплываюць на ўвесь сучасны беларускі культурны дыскурс.

Адным з такіх "прасунутых" выданняў у мінулым годдзе стаў супольны праект "Я нарадзіўся тут", задуманы рознымі беларускімі артыстамі як зборнік аўтарскіх кампазіцый, а таксама рэміксаў песень беларускіх кампазітараў. На працягу года музыкі супольнага праекта "Я нарадзіўся тут" бралі актыўны ўдзел у шматлікіх музычных імпрэзах, некалькі месяцаў творы з яго займалі першыя месцы ў хіт-парадах мясцовых FM-станцый, а наклад дыска быў паўторна выдазены, каб задаволіць нарастаючы попыт. І гэты поспех стаў магчымым дзякуючы ідэям, фінасавай падтрымцы і мэнэджменту ўладальніка буціка "Каміла" Алеся Сушы... І таму калі Ігар Варашкевіч, якому даручылі прадставіць уладальніка галоўнай Рок-кароны-2001, абвесціў імя і прозвішча Алеся Сушы, зала ўзарвалая авацыяй, вітаючы яго, як сапраўнага рокера!



**Алесь Суша**

Гэтую радасную атмасферу падтрымалі ўдзельнікі праекта Вераніка Круглова, Лявон Вольскі, Піт Паўлаў, Зміцер Вайцюшкевіч і галоўная песня праекту са словамі: "Радзільня, дзіцячы садок, школа ды інстытут—я нарадзіўся тут, і я буду жыць тут!" ужо загучала ў выкананні ўсёй залы. Сваеасаблівым музычным адказам А.Сушу і яго кампаніі была песня "Я памру тут" у выканнані гурта "Нейра Дзюбель", якому было даручана, акрамя іншага, прадставіць новы праект прадюзесера А. Сушы—альбом "Скрыпка Дрыгвы" на вершы Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча. "Нейра Дзюбель", спяваючы па-беларуску, амаль поўнасцю адыйшоў ад мінулых напрацовак, якія базаваліся на расейскіх меладычных штампах, набыў непаўторныя нацыянальныя рысы і ў такой іпастасі становіцца прызнаным у Беларусі лідарам свайго стылю—панк-року. Але паглядзім, ці хопіць "дзюбелям" моўнай прынцыповасці, калі справа будзе тычыцца свядомага выбару на карысць беларушчыны...

Дарэчы, беларускамоўныя артысты дамінавалі на "Рок-каранацыі-2001" і гэта вельмі паказальны вынік. Відавочна, што родная мова становіцца для беларускіх рокераў галоўным інструментам для стварэння высокамастацкіх твораў ў сучаснай стылістыцы. Таму нагадаем усіх беларускамоўных артыстаў, якія былі лепшымі ў сваёй намінацыі і атрымалі Рок-кароны ад фірмы "Каўчэг". Адкрыццём года быў прызнаны пераможца мінулагодняга "Басовішча"—гурт "Impett", а яго салістка Дана Жвалік ганараваная тытулам Рок-княўзёўна-2001. Песняй года была названая кампазіцыя гурта "Без білета" "Мая краіна Беларусь", з якой музыкі дэбютавалі на фэсце беларускай песні і паэзіі ў Маладэчна. На імпрэзе быў адзначаны спецыяльным прызам сенсацыйны і самы экстрэмальны фанаграфічны праект мінулага году—зборка беларускамоўнага метал-рока "Hard Life—Heavy Music", што быў выдадзены суполкай BMA-group. Прызам "Радыё Палёнія" за ўмацаванне беларуска-польскіх музычных сувязяў быў адзначаны вядомы беларускі журналіст Вітаўт Мартыненка. Так трымаць, сябра!

Ад сябе дадам, што на гэтай "Рок-каранацыі" я ставіў на Славу Кораня і гурт "Уліс". На мяжы 2000 і 2001 яны выдалі цудоўны альбом з некамерцыйнай рок-музыкай "Падарожжа", які аднадушна быў прызнаны крытыкай амаль за класічны нароўні з "Чужаніцай" ды "Краінай доўгай белай хмары", музыкі цэлы год "раскручвалі" наступны свой праект—альбом "Люстэрка", былі хэдлайнерамі сёлятняга "Басовішча", удзельнічалі ў рэалізацыі шматлікіх беларускіх праектаў. Нажаль, гэта было не заўважана арганізатарамі ды крытыкамі. Але "Уліс"—сапраўдная музычная з'ява, якую ігнараваць з кожным года становіцца ўсе больш складана і сорамна. Значыць, памылку будзем выпраўляць у наступным годзе ?

*Анатоль Мяльгуй.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 17. 07. 2002 г.
Наклад 2400 асобнікаў. Замова № 1274.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.